# Антон Луцкевіч
# і яго роля ў беларускім руху

У 2003 годзе накладам 300 асобнікаў была надрукавана Антона Луцкевіча (29.01.1884—23.03.1942) “Да гісторыі беларускага руху”. Той наклад даўно разышоўся, і кніга стала маладаступнаю. За сем гадоў, што прайшлі ад таго часу, як кніга выйшла ў сьвет, узбагацілася наша веданьне і гісторыі гэтага руху, і творчае спадчыны Антона Луцкевіча, і яго ролі ў гэтым руху. Таму чытачам прапануецца ня проста другое, а дапоўненае і папраўленае выданьне зборніка “Да гісторыі беларускага руху”.

Кніга мае загаловак “Да гісторыі беларускага руху”, таму што тэксты, зьмешчаныя ў ёй, — гэта падрыхтоўчы матэрыял для тых, хто некалі возьмецца і напіша фундамэнтальную гісторыю барацьбы за вызваленьне беларускага народу ад сацыяльнага, нацыянальнага, палітычнага і духоўнага ўціску. Уласна кажучы, уся творчасьць Антона Луцкевіча зьяўляецца як бы дзёньнікам гэтае барацьбы, самым жывым яе сьведчаньнем. Пачаўшы выступаць у друку ў 1906 годзе, Антон Луцкевіч вёў гэты дзёньнік 33 гады — да трагічнага арышту 30 верасьня 1939 году. Выступаючы з артыкуламі, нататкамі, рэплікамі, водгукамі, нарысамі, рэцэнзіямі ў пэрыядычным друку, Антон Луцкевіч прапаведаваў каштоўнасьці дэмакратыі, сацыяльнай справядлівасьці, бараніў правы беларусаў і працоўнага люду Беларусі, уступаў у палеміку з расейскімі рэакцыянэрамі і чарнасоценцамі, з польскімі шавіністамі ды беларускімі правымі і камуністамі, крытыкаваў варожыя Беларусі і беларускаму народу царызм і Часовы ўрад Расеі, урады Польскай Рэспублікі, італьянскі фашызм, гітлерызм і сталінізм. Гэты дзёньнік выдатнага публіцыста і палітычнага мысьліцеля збольшага прадстаўлены ў зборніку “Барацьба за вызваленьне”, што выйшаў у 2009 годзе.

У дзейнасьці аднаго з творцаў і галоўных удзельнікаў беларускага руху Антона Луцкевіча, аднак, наступалі моманты, калі ўзьнікала неабходнасьць асэнсаваць гэты рух, азірнуцца на пройдзены шлях. З другога боку, да 1909 году беларускі рух стаў ужо даволі прыметнай зьявай у грамадзкім і палітычным жыцьці Расейскае імпэрыі, і да Антона Луцкевіча зьвярталіся з просьбамі паінфармаваць пра гэты рух чытачоў расейскіх, польскіх, габрэйскіх і чэскіх выданьняў, напісаць пра яго для Новага энцыкляпэдычнага слоўніка Бракгаўза і Эфрона... Працы, у якіх аўтар інфармуе пра беларускі рух і асэнсоўвае яго, як правіла, пазбаўленыя “злобы дня” і ня ўтрымліваюць палемікі.

У творчасьці Антона Луцкевіча–гісторыка можна вылучыць два пэрыяды: дарэвалюцыйны (маецца на ўвазе ня толькі сацыяльная рэвалюцыя ў Расеі, але і нацыянальная рэвалюцыя ў Беларусі) і пасьлярэвалюцыйны. У пасьлярэвалюцыйным пэрыядзе, у свой чарод, можна вылучыць два этапы: 1920–я і 1930–я гг. Калі ў 1920–х гадох Антон Луцкевіч піша працы з гісторыі беларускага руху прынагодна, спалучаючы творчасьць з палітычнай дзейнасьцю, дык пасьля пагромаў, учыненых пілсудчыкамі ў 1927 і 1930 гг., ён засяроджваецца на працы ў Беларускім навуковым таварыстве і Беларускім музэі пры ім, шмат выступае як лектар.

Трэба адзначыць і тое, што Антон Луцкевіч, выступаючы як гісторык беларускага руху, у дарэвалюцыйны пэрыяд і ў 1920–я гг. пісаў больш пра гісторыю, чым саму гісторыю. Гэта абумоўлена і характарам выданьняў, для якіх ён пісаў, і ўмовамі ў якіх яму даводзілася пісаць. Натуральна, што разьлічаныя на шырокага чытача выданьні не патрабавалі спасылак на дакумэнты і дакладных датаў тых ці іншых падзей. Не патрабавалася ім і дэталізацыя. Па–другое, пішучы ў пэрыяд да 1917 году, Антон Луцкевіч сам

мусіў пазьбягаць дэталізацыі і замоўчваць пэўныя імёны і факты. Па–трэцяе, у 1920–я гг. Антон Луцкевіч, як ужо адзначана, пісаў працы з гісторыі беларускага руху часьцей за ўсё прынагодна, да "круглых" датаў, адрываючыся ад надзённых заняткаў палітыка і публіцыста, а славутую працу "За дваццаць пяць гадоў" яму і наагул давялося пісаць у турме.

Ня лішнім будзе нагадаць, што "За дваццаць пяць гадоў", як і папярэднія працы з гісторыі Беларускай Сацыялістычнай Грамады, грунтуюцца на ўспамінах аўтара, бо, як мы ведаем, архіў гэтае партыі ў 1913 годзе быў здадзены на схоў аднаму несумленнаму чалавеку, які яго прысабечыў і адмовіўся вярнуць. Маючы справу з успамінамі, мы ня можам ставіцца да іх як да навуковых працаў, якія павінны грунтавацца на аб'ектыўных матэрыялах. Паўтараю: працы Антона Луцкевіча з гісторыі беларускага руху — гэта пераважна падрыхтоўчы матэрыял для тых, хто некалі возьмецца і напіша фундамэнтальную гісторыю барацьбы за вызваленьне беларускага народу ад сацыяльнага, нацыянальнага, палітычнага і духоўнага ўціску.

Працы Антона Луцкевіча з гісторыі беларускага руху, пісаныя з сацыял–дэмакратычных, марксісцкіх пазыцыяў, калі можна так сказаць, справакавалі выступ у якасьці гісторыка беларускага руху ксяндза Адама Станкевіча.

Перавага кс. Адама Станкевіча была ў тым, што ён валодаў пэўнымі рэсурсамі (час, грошы, друкарня) і здолеў вынікі сваёй дасьледчыцкай працы аформіць асобнаю кнігаю. Манаграфія "Да гісторыі беларускага палітычнага вызваленьня" цікавая тым, што яе аўтар відавочна стараўся замаўчаць ролю братоў Луцкевічаў, асабліва Антона, у гісторыі беларускага руху, згадваць імя Антона Луцкевіча ў нэгатыўным пляне і абвінавачваць Антона Луцкевіча–гісторыка ў некарэктнасьці. Адказам на гэтую працу ксяндза Адама Станкевіча быў артыкул "Да гісторыі Беларускае Рэвалюцыйнае (пасьля Сацыялістычнае) Грамады". На жаль, мне не ўдалося высьветліць, ці быў гэты артыкул апублікаваны, а рукапіс, які да нас дайшоў, захаваўся толькі часткова. І ўсё ж гэтая праца дала падказку, дзе шукаць канкрэтныя дакумэнты БСГ.

Як вядома, кс. Адам Станкевіч пачынаў гісторыю беларускага палітычнага вызваленьня з асобаў Вінцэнта Канстанціна Каліноўскага, Ігната Грынявіцкага і выдаўцоў часопісу "Гомон". Аднак ня ён быў тут піянэрам. Грунтуючыся на не зусім карэктных публікацыях Вацлава Ластоўскага ў газэце "Гоман", Антон Луцкевіч зьвярнуўся да асобы Канстанціна Каліноўскага ў канцы 1920 г. (артыкул "Пуцяводныя ідэі беларускае літаратуры"[1]). У 1924 годзе ён прысьвяціў Каліноўскаму адмысловае эсэ "Дыктатар Літвы". У эсэ і ў прадмове да ўспамінаў "За дваццаць пяць гадоў" Антон Луцкевіч глядзеў на Канстанціна Каліноўскага як на краёўца, адзначаючы пры тым, што "Каліноўскі, бадай, ці ня першы... разглядае беларускае пытаньне ў чыста палітычнай плашчыні, але ўжо не як частку "польскага пытаньня" (як рабілі ягоныя папярэднікі), а як пытаньне зусім самастойнае, ды стараецца збудзіць прыспаныя сялянскія масы дзеля барацьбы за палітычнае вызваленьне Беларусі й Літвы (былога Вялікага Княства Літоўскага) — у імя нацыянальнай і рэлігійнай свабоды, у імя сацыяльных інтарэсаў беларускага сялянства..."

Тут, думаю, было б лішнім параўноўваць погляды Антона Луцкевіча і кс. Адама Станкевіча на месца і ролю Канстанціна Каліноўскага ў гісторыі беларускага руху. Адначу толькі, што Антон Луцкевіч не лічыў "Mużyckuju Praudu" газэтаю. Пра гэта ён пісаў і ў 1921–м (артыкул "З–пад пылу архіваў"[2], і ў 1933 годзе (артыкул "Праўда аб "Мужыцкай Праўдзе"[3]).

Зьвяртаючы ўвагу на сувязь Канстанціна Каліноўскага з расейскім народніцтвам, Антон

[1] Гл.: Луцкевіч А. Выбраныя творы: Праблемы культуры, літаратуры і мастацтва. Мн., 2007.
[2] Гл.: тамсама.
[3] Гл.: тамсама.

Луцкевіч у прадмове да брашуры “За дваццаць пяць гадоў” пісаў: “Лёзунг будаваньня сваей, беларускай дзяржаўнасьці — праўда, не асобна ад Расеі, а ў фэдэрацыйнай сувязі зь ёй, — бачым і ў так званых “нарадавольцаў”. Аб гэтым выразна гавораць ужо і Герцэн, і Бакунін, а ў 1884 годзе выходзяць два гектаграфаваныя нумары нелегальнае часопісі ў расейскай мове пад назовам “Гомон”, дзе група нарадавольцаў–беларусаў даець абаснаваньне ідэі беларускага дзяржаўнага будаўніцтва — ізноў жа ў складзе Расейскае фэдэрацыі”.

Як бачым, кс. Адам Станкевіч ня быў піянэрам і ў дасьледаваньні беларускага народніцтва. Але калі ён змог апублікаваць вынікі свайго дасьледаваньня ў кнізе “Да гісторыі беларускага палітычнага вызваленьня”, дык рэфэрат Антона Луцкевіча “Нарадавольцы–беларусы і іх орган “Гомон”. К 50–лецьцю выхаду “Гомона” (1934) пяцьдзясят пяць гадоў чакаў сваёй публікацыі. Больш пашанцавала ягонаму рэфэрату “Нарадавольцы–беларусы і іх орган “Гомон” (Да пытаньня пра эвалюцыю палітычнай ідэалёгіі беларусаў у XIX ст.)”, які ў 1936 г. быў надрукаваны па–польску асобнаю адбіткаю.

Дзякуючы публікацыі тэкстаў пра Канстанціна Каліноўскага і беларускіх народнікаў, артыкулаў “Национальное возрождение белорусов”, “Аб беларускім нацыянальным адрадзэньні”, “Белорусское движение”, “К пытаньню аб нацыянальных адносінах у Беларусі і Літве”, “Данос”, “Движение белорусов к национальному возрождению” і “Жанчына ў беларускім адраджэнскім руху”, а таксама “Мэмарыялу Беларускага Ўраду” ў гэтай кнізе больш поўна, чым у яе першым выданьні, прадстаўлена творчасьць Антона Луцкевіча — гісторыка беларускага руху.

Антон Луцкевіч выступаў ня толькі як гісторык, але й як ідэоляг беларускага руху. Ён быў адным з тых, хто выпрацоўваў яго праграмы. Такія тэксты, як “Наш шлях” і “Плян работы”, пераконваюць нас, што БСГ вяла нацыя– і культурастваральную працу, і яе праца цалкам адпавядала духу канструктыўнага сацыялізму, сацыял–дэмакратыі. Больш складана вырашаецца пытаньне: які ж дзяржаўна–праўны ідэал фармулявала БСГ?

Сам А. Луцкевіч, ня маючы перад сабою дакумэнтаў, у “Рэфэрацe Беларускае дэлегацыі на Лязанскай канфэрэнцыі народаў Расеі” сьцьвярджаў, што ўжо ў 1904—1905 гадох “было прызнана, што на адных толькі нацыянальных асобеннасьцях, на адменнасьці культуры народу нельга яшчэ будаваць гасударства: дзеля гэткай будоўлі трэба знайсьці і другія асновы — эканамічныя і праўна–дзяржаўныя. Беларусь, акружаная расейцамі, украінцамі, літвінамі і палякамі, Беларусь, адрэзаная ад мора, зь перарэзанымі адвечнымі торговымі дарогамі да мора — рэкамі Нёманам, Дзьвіной і Дняпром, — гэткая Беларусь не магла бы лічыць на незалежнае эканамічнае разьвіцьцё, без каторага нельга і думаць аб папраўдзе вольным жыцці Краю. І вось, да старой формулы: “вызваленьне Беларусі з–пад уціску Расейскай дзяржавы” — дадаецца новая формула, каторая гаворыць аб вольнай Беларусі як дэмакратычнай рэспубліцы, сфэдэрованай з суседзямі”. Пра тое ж Антон Луцкевіч пісаў і ў артыкуле “Палітычныя лёзунгі беларускага руху”: “Шуканьне апоры ў суседзяў — без Маскоўшчыны — характарызуе ўсю палітычную работу беларусаў ад 1905 году”.

Думаецца, апублікаваныя аб’ектыўныя матэрыялы даюць падставу зірнуць на гэтае пытаньне інакш. Аб’ектыўныя матэрыялы — гэта перш–наперш “Нарыс програму Беларускай Соціалістычной Громады”, апублікаваны Фёдарам Туруком[4], і расейскамоўны тэкст гэтага дакумэнту (“Очерк программы Белорусской Социалистичной Грамады”), надрукаваны Міхасём Мялешкам[5]. Пры гэтым абавязкова трэба адзначыць, што абодва

[4] Гл. у: Турук Ф. Белорусское движение: Очерк истории национального и революционного движения белорусов / С приложением белорусской нелегальной литературы, важнейших документов политических партий и национальных организаций и этнографической карты белорусского племени, составленной акад. Е. Ф. Карским. — М., 1921. Перавыд: Мн., 1994. С. 86—87.

[5] Гл. у: Сацыялістычны рух на Беларусі ў праклямацыях 1905 году / Сабраў і скампанаваў М. Мялешка; прадмова З. Жылуновіча; уступы І. Віткоўскага. — Мн., 1927. С. 65—66.

публікатары атрымалі тэксты дакумэнтаў ад вядомага калекцыянэра беларускіх друкаў Браніслава Эпімаха–Шыпілы (Міхась Мялешка, апроч таго, атрымаў і апублікаваў тэксты ўлётак БСГ). Дык вось, як вынікае з “Нарысу програму...”, першапачаткова партыя заявіла пра сваё імкненьне пабудаваць “незалежную рэспублику демократычную”. Пра фэдэрацыю з суседзямі ў гэтым дакумэнце не гаворыцца нічога.

Такім чынам, на самым пачатку сваёй дзейнасьці Беларуская Сацыялістычная Грамада (у той час адзіная партыя, якая выказвала інтарэсы беларускага народу) сфармулявала сваю стратэгічную мэту. І ад гэтае мэты партыя ніколі не адмаўлялася.

Як вядома, да незалежнасьці вядзе працяглая карпатлівая і ахвярная праца. Ускраіна імпэрыі, у якой яшчэ ня склалася свая нацыянальная інтэлігенцыя, шырокі пласт людзей з досьведам працы ў органах самакіраваньня, у якой не было нацыянальнае школы, нацыянальных Царквы і Касьцёла, мусіла прайсьці праз фазы культурна–нацыянальнай і тэрытарыяльнай аўтаноміі, школу мясцовага самакіраваньня. Нездарма ж сам Антон Луцкевіч у 1914 годзе пісаў, што “вопрос о нарождении народной интеллигенции является основным вопросом белорусского национального возрождения”.

У 1925 годзе Аляксандар Шлюбскі надрукаваў у пятай кніжцы часопісу “Полымя” артыкул “Да гісторыі БСГ”. У гэтым артыкуле ён апублікаваў на расейскай мове праграму Беларускай Сацыялістычнай Грамады, складзеную на падставе праграмы, прынятай партыйным зьездам 1903 году, і рэзалюцыі II зьезду, які адбыўся на пачатку 1906 году[6]. У гэтым дакумэнце было запісана літаральна наступнае: „Стремясь заменить самодержавный строй Российского Государства федеративно–демократическою республикою с свободным самоопределением и культурно–национальною автономией народностей, входящих в состав государства, БСГ выставляет требование автономии Белорусского края с местным сеймом в Вильне”.

Невядома, ці ведаў гэтую публікацыю Антон Луцкевіч і ці спасылаўся на яе ў сваім артыкуле “Да гісторыі Беларускае Рэвалюцыйнае (пасьля Сацыялістычнае) Грамады”. Затое дакладна вядома, што ў духу гэтае праграмы дзейнічалі беларускія сацыялісты ў 1917 годзе, калі БСГ выйшла з падпольля.

Патрабаваньне культурна–нацыянальнай і тэрытарыяльнай аўтаноміі было на той час цалкам рэалістычным праграмным палажэньнем, падказаным самою рэчаіснасьцю. У немалой ступені яно было падказана практыкай Аўстра–Вугорскай імпэрыі і тэарэтычнымі распрацоўкамі аўстрыйскіх марксістаў. У кантэксьце аўстрамарксізму і сацыял–дэмакратычнага Бунду разглядалі нацыянальную праграму БСГ і некаторыя бальшавіцкія аўтары. Іван Ільюшын, напрыклад, пісаў: “Леніным і Сталіным выкрыта буржуазна–нацыяналістычная канцэпцыя нацыянальнага пытаньня аўстрамарксістаў (Ота Баўэр, Рэнэр) як тэарэтычная аснова нацыянальнай палітыкі нацыяналістычных партый зь іх славутай праграмай “нацыянальна–культурнай аўтаноміі”. Ленінізм выкрыў нацыянальную праграму Бунду, БСГ і інш. нацыяналістычных партый...”[7] У наш час пра ідэйную лучнасьць беларускіх сацыялістаў і аўстрамарксістаў піша гісторык Андрэй Унучак[8].

Ідэя аўтаноміі Беларускага краю становіцца ідэяй аўтаноміі Беларуска–Літоўскага краю — Віленскай, Віцебскай, Горадзенскай, Ковенскай, Магілёўскай і Менскай губэрняў — магчыма і ў час рэвалюцыі, але абнародавана была пазьней. Пра гэта сьведчыць артыкул “Беларусы”. Што праўда, гэтая ідэя не была ўпісаная ў праграму БСГ.

Першая сусьветная вайна спыніла нармальны, г. зн. эвалюцыйны, адносна спакойны

---

[6] Гэтая праграма надрукаваная таксама ў кн.: Гісторыя Беларусі канца XVIII — пачатку XX ст. у дакументах і матэрыялах // Укладальнік, навуковы рэдактар А. Ф. Смалянчук. Вільня, 2007. Аднак публікацыя А. Смаленчука мае пэўныя адрозьненьні ад публікацыі А. Шлюбскага.

[7] Ільюшын. Ленін у барацьбе за пралетарскі інтэрнацыяналізм // Бальшавік Беларусі. 1934. № 10. С. 55.

[8] Гл.: Унучак А. У. “Наша Ніва” і беларускі нацыянальны рух 1906—1915 гг.). Мн.: Бел. навука, 2008. С. 116—118.

культура– і нацыятворчы працэс. Ня буду тут дыскутаваць, наконт таго, рана ці позна пачалася вайна[9], адзначу толькі два моманты:

1) вырашыўшы застацца ў Вільні, браты Луцкевічы, Вацлаў Ластоўскі, Цётка ды іншыя кіраваліся тою думкаю, што пад нямецкай акупацыяй удасца многае зрабіць для Беларусі (гл. с. 230 гэтага выданьня)[10];

2) ад пачатку нямецкае акупацыі заходнебеларускіх земляў і прынамсі да 23 сакавіка 1918 году краёвая ідэя была дамінуючай у дзейнасьці віленскага беларускага асяродку (на пытаньне "чаму?" імаверны адказ дам ніжэй).

Ва ўмовах нямецкае акупацыі краёвая ідэя атрымала спачатку назоў Канфэдэрацыі Вялікага Княства Літоўскага. Гэтую канцэпцыю распрацавалі Іван Луцкевіч і Юргіс Шаўліс, пра што Антон Луцкевіч пісаў ва ўласнаручных паказаньнях 30 кастрычніка 1939 г. У адозьве Рады Канфэдэрацыі, складзенай Юргісам Шаўлісам, нічога не напісана аб разьмежаваньні літоўскай і беларускай тэрыторыяў і выказвалася пажаданьне, каб у склад Канфэдэрацыі ВКЛ увайшлі "прынамсі землі, занятыя цяпер нямецкімі войскі, значыцца: Ковенская і Віленская губэрні, беларуская і літоўская часьці Гродзенскай і Сувальскай губэрняў, літоўскія часьці Курляндзкай губэрні і часьці губэрні Мінскай, каторая зьвязана зь Віленскім цэнтрам" (гл. с. 81, 99 гэтага выданьня).

Шляхотная ўтопія, як назваў ідэю Канфэдэрацыі ВКЛ Зэновіюш Панарскі, не магла спраўдзіцца, бо "кожная нацыянальнасьць мела іншую візію будучыні"[11]. Перш за ўсё праціўнікам гэтае ідэі была польская эліта, якая ня толькі хацела дамінаваць у Беларуска–Літоўскім краі, але й марыла пра далучэньне беларусіх і літоўскіх земляў да Польскае дзяржавы.

І толькі пазьней, у 1916 годзе, нарадзілася ідэя *вольнай Беларусі як дэмакратычнай рэспублікі, сфэдэраванае з суседзямі*. У артыкуле "Нашы суседзі" (Homan. 1916. 2 чэрвеня) І. Мялешка (Антон Луцкевіч) пісаў: "Для кожнага краю выхад да мора — гэта найважнейшае пытаньне эканамічнага жыцьця". Аўтар паказваў важнасьць для эканомікі Беларусі нёманскага, дзьвінскага і дняпроўскага водных шляхоў ды чыгунак, якія зьвязваюць Беларусь з Рыгай і Лібавай. 11 чэрвеня 1916 году Антон Луцкевіч зачытаў на паседжаньні Беларускага Народнага Камітэту праект *рэфэрату Беларускае дэлегацыі на Лязанскай канфэрэнцыі народаў Расеі*, у якім фармулявалася канцэпцыя Злучаных Штатаў ад Балтыйскага да Чорнага мора. 16 чэрвеня пра бліжэйшае зьяднаньне народаў ад Балтыйскага да Чорнага мораў ён пісаў у *Homanie*. У ліпені ж новая канцэпцыя была сфармуляваная канчаткова.

Асабліва важна падкрэсьліць, што канцэпцыя Злучаных Штатаў ад Балтыйскага да Чорнага мора не касавала ідэю Беларуска–Літоўскае дзяржавы. У 1917 г. гэтая ідэя набыла іншы кшталт, пра што сьведчыць пісаны хутчэй за ўсё Антонам Луцкевічам *Унівэрсал канфэрэнцыі Беларускага Народнага Камітэту, Беларускай Сацыял–Дэмакратычнай Работніцкай Групы і Віленскага камітэту Беларускай Сацыялістычнай Грамады*. Гэты ўнівэрсал прыняты праўдападобна 1 верасьня. Цяпер меркавалася, што

---

[9] Што вайна пачалася рана, сьцьвярджаюць нашы гісторыкі з Падляшша. Гл.: Латышонак А., Мірановіч Я. Гісторыя Беларусі ад сярэдзіны XVIII да пачатку XXI ст. Вільня—Беласток, 2009. С. 127.

[10] Тут дарэчы будзе працытаваць фрагмэнт ліста ад 8 сакавіка 1915 году Аркадзя Смоліча да Цёткі: "Наагул, Вам, мусіць, трэба шмат да чаго гатавацца. Бо калі ўсяму сьвету — і нашай Бацькоўшчыне — пасьля вайны трэба спадзявацца нечага новага, дык Вашай старонцы асабліва. Памятайце, што Вы ля самых межаў нашых і, можа, прыйдзецца Вам працаваць і жыць у саўсім іншых варунках, чым рэшце беларусоў. Пэрспэктывы могуць быць вельмі шырокія" (Скарыніч: Літаратурна–навуковы гадавік. Вып. 2. Мн., 1993. С. 158.) З гэтага, па–мойму, вынікае адна выснова: тое, што Цётка і яе таварышы застануцца ў Вільні жыць і працаваць і пад нямецкай акупацыяй, было прадвырашана задоўга да Сьвянцянскага прарыву нямецкіх войскаў і акупацыі Віленскага краю.

[11] Ponarski Z. Konfederacja Wielkiego Księstwa Litewskiego 1915—1916 // Białoruskie Zeszyty Historyczne. 1998. Nr 10. S. 65.

Беларуска–Літоўская дзяржава павінна быць фэдэрацыяй зь дзьвюма аўтаномнымі землямі — Беларускай і Літоўскай. Па–другое, у склад Беларуска–Літоўскай дзяржавы меркавалася ўключыць усе беларускія і ўсе літоўскія тэрыторыі з абодвух бакоў лініі фронту. Па–трэцяе, гэтая дзяржава павінна была б жыць у найцясьнейшай еднасьці з Латвіяй (у дакумэнце яна названа Курляндыяй) і з Украінай.

Канцэпцыі Канфэдэрацыі Вялікага Княства Літоўскага і Злучаных Штатаў ад Балтыйскага да Чорнага мора адпавядалі беларускім нацыянальным інтарэсам. Магчыма, Антон Луцкевіч перабольшваў значэньне мора для эканомікі Беларусі (на той час у Эўропе ўжо меліся дзьве “сухаземныя” дзяржавы, якія аніяк нельга было назваць беднымі: Швайцарыя і Люксэмбург), але ў складзе дэмакратычнае беларуска–літоўскай фэдэрацыі Беларусь магла падрыхтаваць і моцны пласт нацыянальнае інтэлігенцыі, і кадры адміністратараў, неабходныя для самастойнага дзяржаўнага быту ў будучыні.

Мы ведаем, што ў лютым 1917 году мелася адбыцца яшчэ адна канфэрэнцыя народаў Расеі — на гэты раз у Стакгольме. У Бэрлін выехалі адзін беларус (Антон Луцкевіч) і тры літоўцы (Сьцяпонас Кайрыс, Антанас Сьмятона ды Юргіс Шаўліс). Прадугледжвалася, што з Бэрліну яны выедуць у Стакгольм. Але здарылася, як піша ва ўласнаручных паказаньнях Антон Луцкевіч, непрадбачанае: у Расеі было зрынута самадзяржаўе. Немцы вырашылі, што патрэба ў канфэрэнцыі адпала, і Антон Луцкевіч выехаў у Вільню. У гэтым была яго немалая памылка, бо літоўцаў безь яго прыняў імпэрскі канцлер Нямеччыны. І літоўцы далі канцлеру тыя абяцаньні, якія ён хацеў пачуць. Вынікам стала ўтварэньне ў верасьні 1917 году з ласкі акупантаў Літоўскае Тарыбы, у якой беларусам, габрэям і палякам выдзялялася па адным месцы пры 20 літоўскіх. 11 сьнежня Літоўская Тарыба прыняла Дэклярацыю пра аднаўленьне Літоўскае дзяржавы са сталіцаю ў Вільні. І нават у гэтых умовах Антон Луцкевіч і ягоныя калегі па Беларускім Народным Камітэце не адмовіліся ад ідэі Літоўска–Беларускае дзяржавы. Дамогшыся ад немцаў права на стварэньне арганізацыйнага камітэту дзеля скліканьня Беларускае Канфэрэнцыі, дзеячы БНК рэвалюцыйным шляхам абвясьцілі нараду гэтага камітэту Беларускай Канфэрэнцыяй. І ў першай жа рэзалюцыі Беларускае Канфэрэнцыі 25—27 студзеня 1918 году (гл. *Дадатак*) чорным па белым было запісана, што яе ўдзельнікі “выказываюць дамаганьне, каб Беларуска–Літоўскія землі акупацыі станавілі *незалежную сувэрэнную дэмакратычную дзяржаву*, зложаную зь дзьвёх аснаўных аўтаномных нацыянальных тэрыторый: Беларускай і Літоўскай у найцясьнейшай еднасьці зь незалежнай Курляндзіяй” і каб да гэтае дзяржавы былі далучаныя беларускія землі, якія на той час знаходзілася на другім баку лініі фронту.

Відавочна, што Антон Луцкевіч недаацэньваў жаданьне літоўскай эліты будаваць сваю нацыянальную дзяржаву. Мала таго, у шэрагах літоўскае эліты меліся дзеячы, якія марылі пра Літву з Нарачу, Наваградкам і Гараднам ды выношвалі пляны літуанізацыі беларусаў. З другога боку, немалая частка літоўскіх дзеячаў баялася дамінацыі беларусаў у беларуска–літоўскай дзяржаве і беларусізацыі літоўцаў[12].

16 лютага 1918 году II Райх прад’явіў ультыматум бальшавіцкай Расеі, якая мірныя перамовы ў Берасьці выкарыстоўвала для рэвалюцыйнай прапаганды. І ў той самы дзень Тарыба прыняла Акт пра незалежнасьць Літвы. 18 сакавіка, калі пачаўся нямецкі наступ на ўсход, Беларуская Рада ў Вільні, што паўстала падчас Беларускае Канфэрэнцыі 25—27 студзеня 1918 году, прыняла рэзалюцыю, у якой абвяшчала “разарванай дзяржаўную зьвязь між Беларусьсю і Расеяй”, але паўтарала ранейшы пастулят пра адбудову “дзяржаўнай незалежнасьці колішняга Літоўска–Беларускага гасударства (Вялікага Княства Літоўскага)”. Праўда, у гэтай рэзалюцыі ўтрымліваўся і цалкам новы зварот

[12] У літоўскай навуцы маюцца дасьледаваньні, якія паказваюць, як цягам XIX і пачатку XX стагодзьдзя пашыраўся беларускамоўны абшар у Віленскім краі.

“да ўсіх гасударств, прызнаўшых прынцып самаадзначэньня нацыянальнасьцей, а ў першы чарод да Нямеччыны” з заклікам “аказаць помач” у адбудове ВКЛ.

Настойлівасьць, зь якою дзеячы БРВ праводзілі ідэю Беларуска–Літоўскае (Літоўска–Беларускае) дзяржавы, можа, па–мойму, тлумачыцца адным. Заходнебеларускія дзеячы, ведаючы ці здагадваючыся пра тое, што афіцыйны Бэрлін разглядае Беларусь як частку Расеі[13], спадзяваліся дамагчыся незалежніцкай — сфармуляванай яшчэ ў 1903 годзе — мэты праз прызнаньне Нямеччынай Літоўска–Беларускае дзяржавы.

У прамежку паміж 18 лютага і 23 сакавіка 1918 году адбываецца перарыентацыя Антона Луцкевіча і Беларускае Рады ў Вільні, якую ён узначальваў. Калі раней пастулявалася незалежнасьць Беларуска–Літоўскага Краю, былога Вялікага Княства Літоўскага, ды цяпер на парадак дня само сабой выйшла пытаньне пра незалежнасьць Беларусі.

Нямецкі наступ, распачаты 18 лютага, умажлівіў, хоць і абмежаваныя, кантакты Вільні зь Менскам. Да Вільні даходзяць зьвесткі і чуткі пра беларускі рух у падрасейскай частцы Беларусі. Як я ўжо адзначаў, беларускія сацыялісты на гэтых землях у сваёй дзейнасьці цалкам прытрымліваліся праграмы БСГ 1906 году. Зьезд беларускіх нацыянальных арганізацый 25—27 сакавіка 1917 году выказаўся за аўтаномію Беларусі ў складзе Расейскай дэмакратычнай фэдэратыўнай рэспублікі. На зьезьдзе была створана этнаграфічная камісія, якая разгледзела пытаньне аб этнаграфічных межах Беларусі. У дакладзе гэтае камісіі, у прыватнасьці, чытаем: “Дзеля таго, што дэпутацыя ад Літоўскага нацыянальнага камітэту зьвярнулася да Часовага Ўраду аб тым, што Віленская губэрня літоўская... і што ў незанятай [немцамі] часьці Віленскай губэрні павінна быць уведзена літоўская адміністрацыя, этнаграфічная камісія прэдлажыла зьезду выразіць перад Часовым Урадам пратэст супраць уключэньня літвінамі ў склад Літвы ўсей Віленскай губэрні, заселенай блізка што на 3/4 беларусамі, а ў той часьці, каторая не занята немцамі, заселенай беларусамі скрозь. Такім парадкам, аб назначэньні у ёй літоўскай адміністрацыі ня можа быць ніякае гутаркі”[14]. Зьезд згадзіўся з дакладам камісіі. Такім чынам, зьезд выказаўся за аўтаномны статус Беларусі ў яе этнаграфічных межах (уключаючы цалкам Віленскую губэрню) у складзе дэмакратычнае фэдэратыўнае Расейскае рэспублікі. За аўтаномны статус Беларусі выказаўся ў канцы 1917 году і Ўсебеларускі зьезд.

Дзеля аб’ектыўнасьці трэба адзначыць наступнае. Са спасылкаю на кс. Вінцэнта Гадлеўскага Алег Латышонак піша, што дэлегацыя, якую Зьезд беларускіх нацыянальных арганізацый накіраваў у Петраград для перамоваў зь дзеячамі Часовага ўраду, правяла канфэрэнцыю зь Літоўскім нацыянальным камітэтам і прапанавала яму аднавіць ВКЛ. Ён піша далей, што на беларускую прапанову літоўцы “адказалі адмовай, заявіўшы,

---

[13] Нямеччына нават увесну 1917 году дакладна не сфармулявала свае ваенныя мэты (гл. арт. “Мэты вайны” ў кн: Луцкевіч А. Барацьба за вызваленьне. Вільня—Беласток, 2009). З заяваў нямецкіх афіцыйных асобаў можна было зрабіць выснову, што Беларусь як цэлае Нямеччыну не цікавіла. З апублікаванай у 1912 годзе мапы будучай Эўропы (гл. у кн.: Кароткі нарыс беларускага пытаньня. Мн., 2009) вынікае, што ў Нямеччыне выношваліся пляны далучыць да II Райху Літву, Латвію, Эстонію і стварыць саюзнае Нямеччыне Польскае каралеўства. Што Літва павінна быць далучана да Райху, пра тое канцлер Т. Бэтман–Гольвэг заявіў 5 красавіка 1916 году. Ня выключана, што частку беларускіх паўночных і заходніх земляў плянавалася далучыць да Райху і Польшчы (6 сьнежня 1916 году пад нямецкім кантролем была створана Часовая Дзяржаўная Рада Польшчы — Tymczasowa Rada Stanu). Пазьнейшыя крокі нямецкае ўлады паказалі, што яна гатовая пры пэўных умовах пайсьці таксама на стварэньне Літоўскай дзяржавы з уключэньнем у яе паўночна–заходніх беларускіх зямель. Не выпадкова ў верасьні 1917 году, калі ў Польшчы была створана Рэгенцкая Рада, у Вільні Літоўская канфэрэнцыя пад нямецкім кантролем абрала Тарыбу.

[14] Пратакол зьезду беларускіх нацыянальных арганізацый у Мінску 25—27 марца 1917 г. // Літаратура і Мастацтва. 1990. 14 сьнежня.

што справа Вялікага Княства стала для літоўскай палітыкі неактуальнай”[15]. Тут трэба адзначыць, што з інфармацыі кс. Вінцэнта Гадлеўскага няясна, у якой якасьці беларуская дэлегацыя прапаноўвала аднавіць ВКЛ — у якасьці суб’екту міжнароднага права ці суб’екту Расейскай фэдэрацыі. Па–другое, Алег Латышонак прапусьціў, бадай, самае істотнае: літоўцы ўжо ўвесну 1917 году лічылі справу Літвы пытаньнем міжнароднай палітыкі, а справу Беларусі яны ўважалі ўнутрырасейскаю праблемаю. З гэтага вынікае адно: на лютаўскай сустрэчы 1917 г. зь Сьцяпонасам Кайрысам, Антанасам Сьмятонам і Юргісам Шаўлісам імпэрскі канцлер Нямеччыны сапраўды даў літоўцам пэўныя гарантыі. Цікава, што было б, калі б Антон Луцкевіч не паехаў тады з Бэрліну ў Вільню, а дачакаўся аўдыенцыі ў канцлера?

Тут ня месца апісваць беларускі рух 1917 году на падрасейскай тэрыторыі. Сьледам за Алегам Латышонкам і Яўгенам Міранoвічам важна адзначыць, што Першая сусьветная вайна “была каталізатарам зьменаў у сьвядомасьці сялянскіх масаў, бо яна разбурыла іх ізаляваны ад вонкавага сьвету лад жыцьця”[16]. Яшчэ раней больш шырока на гэтую тэму выказаўся акадэмік Усевалад Ігнатоўскі: “Вайна 1914 году ломіць старыя рамкі жыцьця і пачынае новы пэрыяд у гісторыі як Расеі, так і Беларусі”[17]. Зацеміўшы, што вайна спарадзіла ў соцень тысяч беларусаў — бежанцаў, выгнанцаў і салдатаў, закінутых у розныя куткі імпэрыі, — сантымэнт да роднага краю менавіта як да Беларусі, а многія тысячы беларусаў (ня толькі сялян) пераўтварыла з этнічных беларусаў у палітычных, адзначу, што вайна вяла ня толькі да шпаркага росту нацыянальнай сьвядомасьці ў беларускіх масах –– яна стала часам узьнікненьня беларускага школьніцтва, ад пачатковых школаў пачаўшы і Менскім беларускім пэдагагічным інстытутам скончыўшы, часам спробы рэалізаваць ідэю дзяржаўнай незалежнасьці ў форме БНР, часам выхаду беларускае справы на міжнародную арэну, часам пачатку пераўтварэньня Беларусі з аб’екту міжнароднае палітыкі ў яе суб’ект, часам нацыянальнае рэвалюцыі.

Пра нацыянальную рэвалюцыю Антон Луцкевіч пісаў, наколькі мне вядома, тры разы: у артыкулах “Будаваньне незалежнай Беларусі”, “На новых шляхох” ды “Янка Купала ў крывым люстры” (гэтыя артыкулы зьмешчаныя ў кнігах “Выбраныя творы: Праблемы культуры, літаратуры і мастацтва” і “Барацьба за вызваленьне”). Рэвалюцыя, як пісаў бальшавіцкі тэарэтык Мікалай Бухарын, мае прынамсі такія фазы, як рэвалюцыя ідэалягічная і рэвалюцыя палітычная[18]. Ідэалягічная рэвалюцыя як комплекс ідэяў аб самабытнасьці беларусаў, іх праве на нацыянальнае самавызначэньне зьдзяйсьнялася і ў пэўнай меры зьдзейсьнілася ў сьвядомасьці людзей Беларусі цягам першых двух дзесяцігодзьдзяў XX стагодзьдзя. Палітычная рэвалюцыя пачала зьдзяйсьняцца ў 1917 годзе.

Ніякая рэвалюцыя не адбываецца ў старым прававым рэчышчы, бо яна руйнуе старое права і ўсталёўвае новае. Практыка паказала, што ні Часовы ўрад Расеі, ні Савет Народных Камісараў і не падумалі прызнаваць права Беларусі на самавызначэньне хоць бы ў форме аўтаноміі. Сьведчаньнем гэтага быў разгон Усебеларускага зьезду, ухвалены ўрадам Уладзімера Леніна. Больш за тое: неўзабаве высьветлілася, што Беларусь стала разьменнаю манэтаю ў торгу паміж бальшавіцкім і кайзэраўскім урадамі на мірных перамовах у Берасьці[19]. Як гэта заўсёды бывала (і цяпер бывае), па-

[15] Латышонак А. Жаўнеры БНР. Беласток—Вільня, 2009. С. 328.

[16] Латышонак А., Мірановіч Я. Гісторыя Беларусі ад сярэдзіны XVIII да пачатку XXI ст. Вільня—Беласток, 2009. С. 127.

[17] Ігнатоўскі У. М. Кароткі нарыс гісторыі Беларусі. 5–е выданьне. Мн., 1991. С. 174.

[18] Гл.: Бухарин Н. И. Проблемы теории и практики социализма. М., 1989. С. 103.

[19] На пачатку 1918 году Антон Луцкевіч ведаў, што магчымая і польска–бальшавіцкая згода коштам Беларусі. Гл.: Луцкевіч А. Барацьба за вызваленьне. Вільня—Беласток, 2009. С. 17.

навала не сіла права, а права сілы. Мілітарнай сіле бальшавіцкай Расеі і Нямеччыны[20] Беларусь магла супрацьпаставіць маральную сілу і рашучасьць сваёй эліты. Паколькі бальшавікі цалкам адмовіліся ад дэмакратычных прынцыпаў, якія яны абвяшчалі перад захопам улады, і нават ад уласных дэкларацыяў, як Дэкларацыя правоў народаў Расеі, Выканаўчы Камітэт Рады Ўсебеларускага зьезду мог і нават абавязаны быў таксама пакінуць прававое поле ды стаць неляяльным у дачыненьні да цэнтральнай расейскай улады. Прыняты Ўсебеларускім зьездам першы пункт Пастановы аб самавызначэньні Беларусі і часовай краёвай уладзе[21] перастаў быць сапраўдным ад моманту разгону гэтага зьезду. Застаецца толькі шкадаваць, што палітыка Выканаўчага Камітэту Рады Ўсебеларускага зьезду была абарончаю, што незалежнасьць Беларусі не была абвешчана ані 20 лютага 1918 г., калі быў утвораны Народны Сакратарыят Беларусі, ані 9 сакавіка, калі была абвешчана Беларуская Народная Рэспубліка. Хто ведае, як бы паводзіліся імпэрыялістычныя Расея і Нямеччына ў дзень падпісаньня Берасьцейскага трактату, калі б БНР і яе незалежнасьць былі абвешчаны 20 лютага?

Найвышэйшым пунктам нацыянальнай рэвалюцыі стаў Акт 25 Сакавіка, ініцыятарам і аўтарам праекту якога быў Антон Луцкевіч.

Мне давялося пісаць, што 3–я Ўстаўная Грамата Рады БНР — гэта акт, скіраваны ў будучыню. Тут дарэчы будзе працытаваць яшчэ аднаго камуністычнага тэарэтыка, Льва Троцкага: "...рэвалюцыя ня ёсьць цэласны і гарманічны працэс. Яна поўная супярэчнасьцяў. Яна разьвіваецца не інакш, як робячы пасьля двух крокаў наперад адзін крок назад"[22]. У нашым выпадку двума крокамі наперад было абвяшчэньне незалежнасьці Беларусі. Крокам назад было абвяшчэньне з волі Масквы таксама "незалежнае" БССР 2 студзеня 1919 г., якая, што праўда, з волі тае ж Масквы праіснавала нядоўга. У ліпені 1920 году Масква вымушаная была згадзіцца з паўторным абвяшчэньнем "незалежнае" БССР. Нельга не згадзіцца з Антонам Луцкевічам, які ў 1921 годзе пісаў: "Савецкая Беларусь — гэта няшчырая ўступка маскоўскага цэнтралізму магутнаму дамаганьню волі і незалежнасьці з боку народных масаў Беларусі"[23]. І калі хтосьці паспрабуе аспрэчыць гэты тэзіс, нагадаю словы Ісака Рэйнгольда, прамоўленыя ім па паседжаньні Цэнтральнага Бюро КП(б)Б 22 студзеня 1919 году: "Существование Белорусской Рады заставило выдвинуть Белорусскую [Советскую] Республику"[24].

Антон Луцкевіч прызнаваўся, што "будаваньне Савецкае Беларусі вельмі абніжае палёт нашае палітычнае мысьлі, зводзячы яе на грунт фэдэралізму, як нейкага нязьменнага догмату", але ён жа лічыў, што "недзяржаўныя" народы, "уваходзячы ў склад СССР, настолькі вырастуць культурна, нацыянальна і палітычна, што ніхто і ніштo ня зможа ўжо іх вярнуць у стан рабства", і ён жа выказваў упэўненасьць, што "раней ці пазьней *адбудуецца Беларусь наша так, як у нашых снах–летуценьнях мы яе сабе выабражаем*". З тэкстаў Антона Луцкевіча 1920–х гг. вынікае, што ён разглядаў БССР як этап на шляху да незалежнасьці нашай краіны.

Можна, вядома, разважаць, чаму Беларусі не ўдалося дасягнуць незалежнасьці ў 1918—1919 гг. Можна тлумачыць гэты факт шмат якімі прычынамі, але я нагадаю філёзафам гісторыі што пісаў Карл Маркс у прадмове да першага выданьная І тому

---

[20] Падзеі 1918 — пачатку 1919 году паказалі, што ніякага істотнага адрозьненьня ў беларускай палітыцы кайзэраўскай Нямеччыны і Нямеччыны, на чале якой стаяў урад сацыял–дэмакрата Філіпа Шайдэмана, не было.

[21] Гл.: Турук Ф. Белорусское движение... С. 106.

[22] Троцкий Л. Сталинская школа фальсификаций: Поправки к литературе эпигонов. Берлин, 1932. Перавыд.: М., 1990. С. 6.

[23] Луцкевіч А. Барацьба за вызваленьне. С. 235.

[24] 1 января 1919 года: Временное рабоче–крестьянское советское правительство Белоруссии: документы и материалы / Сост. В. Д. Селеменев (рук.) [и др.]; научн. ред. М. Ф. Шумейко. Мн., 2005. С. 83.

“Капіталу”. Пісаў жа ён, што кожная нацыя “ня можа ані пераскочыць цераз натуральныя фазы разьвіцьця, ані адмяніць апошнія дэкрэтамі”[25]. Украінцы мелі і войска, і паліцыю, і фінансы, і нават магчымасьць дапамагаць Ураду БНР, але ўвосень 1919 году Антон Луцкевіч, адказваючы на пытаньне карэспандэнта “Kurjeru Polskiego”, як стаіць цяпер справа Беларускай Рэспублікі, адказваў: “Болей–меней так, як справа Ўкраіны”. Нельга не зважаць на сацыяльную дэмагогію бальшавікоў, якія паабяцалі даць сялянам зямлю і нават на пэўны час залучылі ў свой урад выразьнікаў сялянскіх інтарэсаў — левых эсэраў. Але, акрамя ўнутраных, уласна нацыянальных чыньнікаў трэба мець на ўвазе і вонкавы фактар. Шмат што залежала ад краін — пераможцаў у Першай сусьветнай вайне. Паводле змовы паміж Злучаным Каралеўствам і Францыяй, Беларусь і Ўкраіна трапілі ў сфэру інтарэсаў апошняе. Францыю, якая спадзявалася спагнаць з Расеі велізарныя даўгі, непакоіла пагроза развалу гэтай краіны, і таму Жорж Клемансо рашуча выказаўся супраць незалежнай Беларусі (гл. с. 240 гэтага выданьня).

Антон Луцкевіч меў усе падставы сьцьвярджаць, што ў ходзе сусьветнае вайны і адразу пасьля яе заходнія дэмакратыі выявілі няздольнасьць вырашыць нацыянальнае пытаньне. Аглядаючы мапу павэрсальскай Эўропы, ён пісаў: “Абраз незвычайна сумны. Сумны ня толькі затым, што дэмакратычная ідэалёгія ў нацыянальным пытаньні яўна збанкрутавала, але і затым, што няздольнасьць дэмакратыі разьвязаць на практыцы нацыянальнае пытаньне суліць сьвету новыя нялічаныя беды”.

Гэта цытата з артыкулу “Дэмакратыя, пралетарыят і нацыянальнае пытаньне”. Карыстаючыся марксісцкай мэтадалёгіяй, Антон Луцкевіч яшчэ ў канцы 1919 году прадказаў непазьбежнасьць другое сусьветнае вайны (гл. ягоную працу “Ўсходняе пытаньне і Беларусь” у кнізе “Барацьба за вызваленьне”). У 1923 годзе ён яшчэ раз напісаў пра гэта.

Зварот да марксісцкай тэорыі нацыянальнага пытаньня спатрэбіўся Антону Луцкевічу таму, што ён сутыкнуўся зь люстэркавым адлюстраваньнем бальшавізму — практыкай польскіх сацыялістаў. Калі бальшавікі змагаліся з сацыялістамі, якія не хацелі, каб іх народы жылі ў адной дзяржаве з Расеяй, дык дзеячы Польскай сацыялістычнай партыі абвяшчалі нацыяналістамі і нават шавіністамі тых сацыялістаў, якія хацелі незалежнасьці сваіх народаў ад Польшчы. Недалёка ад польскіх сацыялістаў адышоў і польскі камунізм. У сваёй працы “Нацыянальнае пытаньне і пралетарыят”, якую трэба разглядаць у шэрагу ягоных палемічных артыкулаў, скіраваных супраць згодніцкай палітыкі ППС, Антон Луцкевіч, паказваючы асобныя памылкі раньняга марксізму, адначасна дэманструе, як далёка стаяць польскія сацыялісты ад слушных высноваў сталага марксізму.

Калі паводле савецка–польскай змовы, якую прадбачылі яшчэ на пачатку 1918 году, заходнія беларускія землі апынулся ў складзе Польскае дзяржавы, Антон Луцкевіч распрацоўвае праграму беларускага руху ў новых умовах. Спачатку гэта ідэя Сялянскага Саюзу (вясна 1921 году), потым — ідэя Саюзу беларусаў — выбаршчыкаў у Сойм і Сэнат (восень 1922 году). Мелася на ўвазе, што праз Саюз беларускія паслы на Сойм і сэнатары будуць інфармаваць выбаршчыкаў аб сваёй дзейнасьці, а выбаршчыкі будуць інфармаваць Беларускі пасольскі клюб аб сваіх патрэбах і пажаданьнях. Але перш чым выпрацаваць ідэю Саюзу выбаршчыкаў, Антон Луцкевіч распрацаваў у 1922 годзе плятформу Беларускага цэнтральнага выбарчага камітэту (БЦВК). Ён жа пасьля выбараў уласнаручна напісаў Статут Беларускага пасольскага клюбу, куды перанёс асноўныя тэзісы плятформы БЦВК. Гэтыя тэзісы леглі потым у аснову праграмы Беларускай Сялянска–Работніцкай Грамады. Можна сьцьвярджаць таксама, што ў дзейнасьці пасольскай фракцыі “Беларуская Сялянска–Работніцкая Грамада” ў значнай меры рэалізавалася ідэя Саюзу выбаршчыкаў.

---

[25] Маркс К., Энгельс Ф. Соч. 2-е изд. Т. 23. С. 10.

Гісторыя БСРГ яшчэ не напісаная. 100–тысячная арганізацыя сялян і работнікаў Заходняй Беларусі спалохала ня толькі польскіх і апалячаных абшарнікаў. Яна, хоць і служыла экспазытурай Камуністычнае партыі Заходняе Беларусі, не магла не спалохаць бальшавікоў. І зусім натуральна, што ў Грамады знайшоўся трэці праціўнік — Беларуская хрысьціянская дэмакратыя на чале з кс. Адамам Станкевічам ды блізкі да яе Беларускі сялянскі саюз на чале з Васілём Рагулем і Фабіянам Ярэмічам.

Што ж датычыць Антона Луцкевіча, дык пэрыяд Сялянска–Работніцкай Грамады быў апошнім яго высокім узьлётам як ідэоляга беларускага руху. Гэта ня значыць, што Антон Луцкевіч пасьля разгрому БСРГ быў няздольны выпрацоўваць новыя ідэі. Гэта значыць толькі тое, што ён страціў інтэлектуальную гегемонію ў гэтым руху. І страціў яе таму, што, нягледзячы на ўсе высілкі, левыя дэмакраты ў Заходняй Беларусі не маглі кансалідаваць гэты рух, бо яго разрывалі на часткі бальшавікі і хадэкі, бо паводзіны лідэраў БСРГ пасьля іх выхаду з турмаў спарадзілі ў масах крызіс даверу, бо з дапамогай хадэкаў бальшавікі вялі супраць усіх нязгодных зь імі псыхалягічную вайну, бо санацыйны рэжым увёў у Польскай Рэспубліцы рэжым тэрору, сымбалем якога стаў канцлягер у Бярозе Картускай.

Як адзначана вышэй, з пачатку 1930–х гг. Антон Луцкевіч засяродзіўся на працы ў Беларускім навуковым таварыстве і Беларускім музэі пры ім, выступаў як лектар. І менавіта на пачатку 1930–х кс. Адам Станкевіч пачаў пісаць сваю вэрсію гісторыі беларускага руху. Апавядаючы пра Беларускую Сацыялістычную Грамаду, Акт 25 Сакавіка, Віленскую Беларускую Раду (яна ж Беларуская Рада ў Вільні), аўтар кнігі “Да гісторыі беларускага палітычнага вызваленьня” толькі разы тры згадваў Антона Луцкевіча, і тое ў зносках, калі спасылаўся на ягоныя тэксты. І толькі дайшоўшы да закалоту 13 сьнежня 1919 году ў Радзе БНР, Адам Станкевіч увёў імя Антона Луцкевіча ў асноўны тэкст, каб напісаць пра яго такое: “Тварцом Найвышэйшай Рады і яе ідэолягам быў Антон Луцкевіч. Палітычны дзеяч гэты цьвёрда трымаўся польскай арыентацыі і верыў, што Польшча дапаможа ў будове незалежнай Беларусі”[26].

Вось і ўся роля Антона Луцкевіча ў гісторыі беларускага палітычнага вызваленьня паводле ксяндза Адама Станкевіча.

Тут, думаю, самы час вярнуцца да ўжо цытаванай манаграфіі Андрэя Ўнучака. Адной з галоўных, калі ня самай галоўнай перашкодай на шляху крышталізацыі нацыі быў падзел беларусаў на праваслаўных і каталікоў, з чаго вынікалі моцныя прарасейская і прапольская плыні ў грамадзтве. Пакінем тут у баку ўнійныя праекты братоў Луцкевічаў (пра гэта гл. артыкул “Мітрапаліт Шаптыцкі і беларускі рух”), а адзначым усьлед за Андрэем Унучакам, што пераадолець канфэсійны падзел беларусаў (Андрэй Унучак чамусьці піша толькі пра сялянства) можна было толькі пры дапамозе сацыялістычнай ідэі як ідэі сацыяльнай і нацыянальнай эмансыпацыі. На перашкодзе яднаньню беларусаў стаялі казённая Праваслаўная Царква і спольшчаная Каталіцкая Царква. Не ведучы барацьбы супраць гэтых інстытутаў (такую барацьбу і нельга было весьці ва ўмовах цэнзуры), але дзейнічаючы ў духу канструктыўнага сацыялізму, вызнаючы эвалюцыйны пераход да сацыялістычнага ладу, нашаніўцы, а сярод іх першы фактычны рэдактар газэты Антон Луцкевіч, спрыялі нараджэньню беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі, нацыянальнай эліты. Дзякуючы ахвярнай працы заснавальнікаў “Нашай Нівы” (а ў рэдакцыі працавалі сябры ЦК БСГ Іван і Антон Луцкевічы ды Аляксандар Уласаў) за два гады ўдалося наладзіць рэгулярны выпуск газэты, паставіць яе “на ногі”, падрыхтаваць зьмену, і гэтая зьмена пасьля супольнай працы з братамі Луцкевічамі ды Аляксандрам Уласавым (1909—1912) пераняла кіраўніцтва выданьнем. Тым часам “старыя” нашаніўцы рэалізавалі новыя праекты: Антон Луцкевіч узначаліў “Вечернюю газету”, а Аляксандар

---

[26] Станкевіч А. З Богам да Беларусі: Збор твораў. Вільня, 2008. С. 207.

Уласаў вярнуўся ў Менск, дзе выдаваў “Саху” і “Лучынку”. З “Пляну работы”, якія надрукаваны ў гэтай кнізе, відаць, якія намеры меліся ажыцьцявіць беларускія сацыялісты ў бліжэйшы час. Ды ажыцьцяўленьню іх плянаў перашкодзіла вайна.

“Да сусьветнае вайны беларускія адраджэнцы прадстаўлялі сабе будучыну беларускага руху так, што вось створыцца беларуская інтэлігенцыя, па сваей ідэалёгіі, пэўне ж, буржуазная, якая і адыграе роль асяродка, ля якога будзе адбывацца гуртаваньне, крысталізацыя беларускае нацыі”, — прызнаваўся Антон Луцкевіч у артыкуле “Крысталізацыя нацыі” (1925). Аднак Расея, Беларусь і Ўкраіна адсталі ў сваім разьвіцьці нават ад Польшчы, дзе прыгон быў скасаваны яшчэ Напалеонам Банапартам і да пачатку XX ст., апроч пралетарскіх і сялянскіх, сфармаваліся партыі нацыянал–дэмакратаў і хрысьціянскіх дэмакратаў. У Расейскай імпэрыі капіталізм разьвіваўся пад патранатам дзяржавы, і буржуазныя партыі паўсталі пасьля таго, як гэта дазволіў сваім маніфэстам ад 17 кастрычніка 1905 г. Мікалай Крывавы. Што ж тычыцца Беларусі, дык тут пасьля маніфэсту буржуазную Кансэрватыўна–каталіцкую партыю Літвы і Беларусі арганізаваў віленскі біскуп Эдвард фон дэр Роп, аднак пасьля таго, як біскупа адхілілі ад кіраваньня дыяцэзіяй і адправілі пад нагляд паліцыі ў вёску, у шэрагах краёвага панства і буржуазіі не знайшлося каму прадоўжыць ягоную справу, і партыя распалася. Пагатоў не магло арганізавацца сялянства. Пасьля разгрому ў 1880–х гг. беларускае фракцыі партыі “Народная Воля” ў шэрагах тутэйшых народнікаў не было каму прадоўжыць яе справу. На пачатку XX стагодзьдзя практычна ўсе тутэйшыя народнікі ўвайшлі ў агульнарасейскую Партыю сацыялістаў–рэвалюцыянэраў. Жменька ж нацыянальна арыентаваных народнікаў далучылася да БСГ, якая да 1 траўня 1918 году ўяўляла сабою блёк марксістаў і народнікаў[27].

“Можна сьмела сказаць, што ўвесь адраджэнскі рух у нас расьцьвіў пад чырвоным сьцягам сацыялізму”, — пісаў Антон Луцкевіч у працы “Дваццацілецьце Беларускае Сацыялістычнае Грамады”. “Ад самых першых дзён сваіх беларускі рух ідзе пад чырвоным штандарам. (...) Беларускі нацыянальны ідэал зьліваецца і ідэнтыфікуецца з ідэалам партыйным”, — пісаў ён у артыкуле “Адраджэньне нацыі”. І хоць, як удакладняў Антон Луцкевіч, маючы на ўвазе каталіцкую клерыкальную групу, што гуртавалася вакол газэты “Biełarus”, у 1912 годзе “ў беларускім грамадзянстве пачынаюць тварыцца новыя групы, якія твораць свае кіраўнічыя арганізацыі, выдаюць свае часопісі і т. п.”, да 1917 году БСГ была адзінаю арганізацыйна аформленаю палітычнаю сілаю, якая выказвала інтарэсы беларускага народу.

Антону Луцкевічу даводзілася публіцыстычную, праграмна–тэарэтычную, а з канца 1915 году і пэдагагічную працу спалучаць з арганізацыйнаю. Пасьля таго, як у 1915 годзе на ўсход падаўся Вацлаў Іваноўскі, старшыня Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны, Антону Луцкевічу давялося ўзначаліць гэтае таварыства на акупаванай немцамі тэрыторыі. Паколькі палітычную дзейнасьць акупанты забаранялі, БТДПВ стала прыкрыцьцём нелегальнага Беларускага Народнага Камітэту, які таксама ўзначаліў Антон Луцкевіч. Разам з братам Іванам і Цёткаю ён браў удзел у стварэньні ў Вільні Беларускай Сацыял–Дэмакратычнай Работніцкай Групы, або проста Беларускай Работніцкай Групы, у якую ўваходзілі працаўнікі віленскіх прадпрыемстваў. (БСДРГ, як вынікае з наяўных матэрыялаў, была аўтаномнаю адзінкаю ў складзе Віленскага камітэту БСГ.) Як цяпер мы ведаем, Антон Луцкевіч адыграў першарадную ролю ў

[27] У сваёй манаграфіі Андрэй Унучак піша, што да высновы пра блёкавасьць БСГ прыйшоў Мікалай Сташкевіч. Аднак пра гэта яшчэ ў 1926 годзе казаў Зьміцер Жылуновіч (гл.: Працы Акадэмічнае канфэрэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі (14—21 лістапада 1926 г.) / Пад. рэд. С. Некрашэвіча і Ў. Ігнатоўскага. Менск, 1927. С. 373). Пра гэта пісала таксама Малая Савецкая Энцыкляпэдыя, і Міхаіл Югаў пад крыптанімам М. Ю. даваў ёй адповедзь у артыкуле “Аб БСГ у Малой Савецкай Энцыкляпэдыі” (Бальшавік Беларусі. 1930. № 1—2).

падрыхтоўцы Беларускае Канфэрэнцыі 25—27 студзеня 1918 году. Ён жа ўзначаліў абраную Канфэрэнцыяй Беларускую Раду ў Вільні (у літаратуры яе называюць і Віленскай Беларускай Радай).

Новы этап у дзейнасьці Антона Луцкевіча наступае 22 сакавіка 1918 году, калі ён у складзе дэлегацыі Беларускае Рады ў Вільні прыехаў у Менск. Менавіта ён ініцыяваў Акт 25 Сакавіка і напісаў яго праект. 7 красавіка ён ад імя Віленскай Рады піша ліст Язэпу Варонку і абгрунтоўвае, чаму трэба ў склад Рады БНР кааптываць сяброў Менскага Беларускага Прадстаўніцтва на чале з Раманам Скірмунтам, чаму трэба, каб Урад БНР паправеў. Зрэшты, пра гэта я напісаў вялікі артыкул "Урады БНР і кабінэты Рамана Скірмунта" (*Arche*. 2008. № 4).

У верасьні 1918 году Антон Луцкевіч вымушаны быў зноў пакінуць Вільню, каб узначаліць Надзвычайную дэлегацыю Рады БНР ва Ўкраіне. Дэлегацыя працавала ў Кіеве як мінімум да 6 лістапада. Калі б ня гэтая паездка, Урад БНР наўрад ці меў бы магчымасьць разгарнуць дзейнасьць сваіх місіяў у Бэрліне, Латвіі і Эстоніі, а сам Антон Луцкевіч — паехаць у Парыж, дзе праходзіла мірная канфэрэнцыя і дзяржавы–пераможцы кроілі мапу Эўропы. Яшчэ адзін вынік тае паездкі — таемныя сустрэчы зь дзеячом бальшавіцкае партыі Хрысьціянам Ракоўскім. У ходзе гэтых сустрэчаў Антон Луцкевіч пераканаўся, што бальшавіцкая Расея не прызнае Беларускую Народную Рэспубліку.

Калі ў Нямеччыне адбылася Лістападаўская рэвалюцыя і да ўлады прыйшоў урад Філіпа Шайдэмана, Рада БНР прызначыла Антона Луцкевіча Старшынёй Рады Народных Міністраў і міністрам замежных справаў Рэспублікі. У наступныя дзесяць месяцаў кіраўнік ураду БНР шмат езьдзіць: Менск, Вільня, Горадзен, Вільня, Горадзен, Бэрлін, Прага, Бэрлін, Парыж, Закапанэ, Варшава... Сустрэчы зь вядомымі (Карл Каўцкі, Томаш Г. Масарык, Эдвард Бэнеш, Сяргей Сазонаў, Ігнацы Падарэўскі) і менш вядомымі палітыкамі. І высновa: Францыя, Жорж Клемансо стаяць на перашкодзе беларускай дзяржаўнасьці. Па запрашэньні Ігнацы Падарэўскага Антон Луцкевіч прыяжджае ў Варшаву і канфэруе зь Юзафам Пілсудзкім. Ён разумее: калі Польшча прызнае незалежнасьць БНР — прызнае і Антанта. Але якую цану трэба за гэта заплаціць?

Тым часам сакратар Рады БНР Пётра Крачэўскі ды іншыя сацыялісты–фэдэралісты разам з эсэрамі рыхтавалі пераварот. Паколькі ў іх шэрагах не было нацыянальнага дзеяча "са стажам", яны зьвярнуліся да Вацлава Ластоўскага[28] з прапановай заняць пасаду прэм'ер–міністра Рэспублікі. Патрабавалася толькі, каб ён уступіў у адну з названых партыяў. І Вацлаў Ластоўскі — былы сябар ППС, БСГ і нядаўні кансэрватар — стаў сацыялістам–рэвалюцыянэрам. Каб нейк апраўдаць змову, змоўшчыкі прыдумалі, што Антон Луцкевіч — палянафіл, г. зн. хоча здаць Беларусь пад Польшчу. Учыніўшы закалот і абвясьціўшы Вацлава Ластоўскага галавою паралельнага кабінэту, яны не прыдумалі нічога лепшага, як павярнуцца тварам на Ўсход. У спадзяваньні, што Масква прызнае БНР, яны сталі на шлях супрацоўніцтва з бальшавікамі. І горка расчараваліся, калі даведаліся, што 12 ліпеня 1920 года Масква падпісала мірную дамову зь Літоўскай Рэспублікай, аддаўшы ёй Віленскі край. Страціўшы глебу ў Айчыне, яны мусілі падацца на чужыну.

Антон Луцкевіч быў не такі наіўны палітык, каб бязь цьвёрдых гарантыяў станавіцца чыім–небудзь саюзьнікам. Сацыял–дэмакрат, ён папросту ня мог стаць саюзьнікам тае дзяржавы, якая абапіралася ў Беларусі на абшарнікаў, а плябаніі ператварыла "ў жандарскія ўпраўленьні". Пасьля заклоту 13 сьнежня, пасьля яшчэ аднае сустрэчы зь Пілсудзкім ён жадаў аднаго — выехаць у Парыж, бо лічыў, што справа незалежнасьці яшчэ не прайграная. Аднак выехаць яму было нельга: палякі яго інтэрнавалі. Інтэрнаваўшы

[28] Каюся: я паверыў эмігрантам і сьледам за імі напісаў быў, што Вацлаў Ластоўскі браў удзел у гістарычным паседжаньні Рады БНР 24—25 сакавіка 1918 г. Насамрэч Вацлаў Ластоўскі быў у тую ноч далёка ад Менску.

прэм'ер–міністра БНР, палякі вялі за ягонаю сьпінаю перамовы зь іншымі сябрамі ягонага кабінэту. Страціўшы магчымасьць зьмяніць сытуацыю да лепшага, 28 лютага 1920 году Антон Луцкевіч падаў заяву пра адстаўку, а 1 сакавіка міністар замежных справаў Польшчы Станіслаў Патэк сфармаваў камісію для перамоваў зь беларусамі на чале з сацыялістам Леанам Васілеўскім. І ў 1939 годзе Антона Луцкевіча будзе турбаваць пытаньне: цаною якіх саступак Вацлаў Іваноўскі, Аркадзь Смоліч ды іншыя здолелі дамовіцца за палякамі... не, не аб прызнаньні незалежнасьці БНР, а пра субсыдыі для культурна–асьветнае працы.

Яму было куды ехаць і было што рабіць. Антона Луцкевіча мы бачым у ліку настаўнікаў Віленскае беларускае гімназіі і заснавальнікаў Таварыства беларускае школы. У 1921 годзе Антон Луцкевіч узначаліў Беларускае навуковае таварыства; у тым жа годзе — пасьля таго, як Антон Луцкевіч збольшага ўпарадкаваў калекцыю свайго брата — пры БНТ у Базыльянскіх мурох адчыніўся Беларускі музэй імя Івана Луцкевіча. А яшчэ праца ў Беларускім Нацыянальным Камітэце, у яго Палітычнай камісіі. Антона Луцкевіча мы бачым у 1922 годзе на перамовах з прадстаўнікамі габрэйскай, нямецкай ды ўкраінскай нацыянальных меншасьцяў. У выніку гэтых перамоваў паўстаў выбарчы Блёк нацыянальных меншасьцяў; сам жа былы прэм'ер–міністар БНР узначаліў Беларускі цэнтральны выбарчы камітэт. Тым, што ў лістападзе 1922 году на зьдзіўленьне многім 14 прадстаўнікоў беларускага народу занялі крэслы ў Сойме і Сэнаце Польскае Рэспублікі, была немалая заслуга Антона Луцкевіча[29]. І ўвесь гэты час ён выступаў як публіцыст, палеміст, літаратурны крытык. Ён быў вядучым аўтарам газэтаў "Наша Ніва", "Наша Думка", "Беларускія Ведамасьці", "Беларускі Звон", "Наша Будучына", "Новае Жыцьцё", "Наш Сьцяг", "Вольны Сьцяг", "Змаганьне" ды іншых выданьняў пачатку 1920–х гг. Ён фактычна рэдагаваў выданьні Беларускага Пасольскага Клюбу ("Сын Беларуса", "Сялянская Праўда", "Голас Беларуса", "Беларуская Доля", "Беларуская Ніва", "Іскра") і Сялянска–Работніцкае Грамады ("Жыцьцё Беларуса", "Беларуская Справа", "Народная Справа", "Наша Справа", "Наш Голас", "Наша Праўда"). Тут названыя далёка ня ўсе заходнебеларускія выданьні, у якіх ён друкаваўся, а былі ж яшчэ артыкулы, рэцэнзіі, эсэ ў нямецка–, польска–, украіна– і чэскамоўных выданьнях.

У студзені 1927 году, калі пілсудчыкі арыштавалі лідэраў БСРГ, Антон Луцкевіч узяў адказнасьць ня толькі за выданьне яе газэтаў. Аляксандра Бэргман, аўтарка першае біяграфіі Антона Луцкевіча, выказвае думку, што ён, Луцкевіч, разам з Ігнатам Дварчанінам узначаліў арганізацыйную працу грамадаўцаў, у тым ліку іх кампанію па выбарах у органы мясцовага самакіраваньня. Калі пагартаць газэту „Biełaruskaja Krynica" за жнівень і верасень 1927 году, дык можна даведацца, што ў гмінныя і гарадзкія рады, павятовыя соймікі агулам прайшло 335 беларусаў, зь іх 19 хрысьціянскіх дэмакратаў, 10 сяброў Беларускага Сялянскага Саюзу і 102 грамадаўцы. З інфармацыі вынікае, што беларусы дамагліся большасьці ў Азёрскай (Горадзеншчына), Белавескай, Гарадоцкай (Маладэчанскі павет), Германавіцкай, Гудзевіцкай, Жыдомлеўскай, Клецкай, Лашанскай, Пліскай і Сіняўскай гмінных радах; беларусы атрымалі большасьць мандатаў таксама ў Вялейскім, Горадзенскім і Дзісенскім павятовых сойміках; разам з габрэямі і расейцамі беларусы пераўзышлі палякаў у Лідзкім павятовым сойміку і Клецкай гарадзкой радзе. Два беларусы (сэнатар Вячаслаў Багдановіч і каапэратар Кузьма Крук) сталі раднымі ў Вільні і прамаўлялі ў роднай мове. Зьвесткі, датычныя асобных гмінаў і паветаў і зьмешчаныя ў „Biełaruskaj Krynicy", думаецца, няпоўныя, але, наколькі я ведаю, гэтае пытаньне ніхто з гісторыкаў яшчэ не вывучаў.

Хоць Антон Луцкевіч ня быў сябрам забароненай БСРГ, хоць польская палітычная паліцыя выдатна гэта ведала, 12 кастрычніка яго арыштавалі. А праўдзівей кажучы —

[29] Усяго ў польскі парлямэнт трапіла 19 беларусаў, але 5 зь іх належалі да Польскай сялянскай партыі "Вызваленьне".

ізалявалі, бо набліжаліся выбары ў Сойм і Сэнат Польскае Рэспублікі другое кадэнцыі, і Антон Луцкевіч мог зноў узначаліць беларускую выбарчую акцыю.

Антон Луцкевіч адыгрываў першарадную ролю ня толькі ў жыцці Заходняй Беларусі. Аляксандра Бэргман пісала пра былога прэм'ер–міністра БНР Антона Луцкевіча наступнае: "Ён меў асабістыя стасункі зь некаторымі выдатнымі дзеячамі БССР, якія ўважалі яго за "шэрага кардынала" і вельмі высока цанілі"[30].

Магчыма, лішнімі ў гэтай кнізе здадуцца артыкулы Антона Луцкевіча "Ахілесаўская пята", "Будаваньне Беларусі", "Вялікая пара!" і "Расьце Беларусь!". Яны прысьвечаныя не гісторыі, не тэорыі беларускага руху, але паказваюць, што Антон Луцкевіч меў пэўны ўплыў на палітыку бальшавікоў, у прыватнасьці на тое, што Масква вярнула ў склад Беларусі частку земляў, якія яна адарвала ад нашай Бацькаўшчыны ў студзені 1919 году. Я больш чым упэўнены, што публікацыя гэтых артыкулаў узгаднялася зь Менскам.

Антона Луцкевіча, Усевалада Ігнатоўскага і Аляксандра Чарвякова я лічу тымі ключавамі асобамі, якія фармулявалі беларускую нацыянальную палітыку 1920–х гг. Тут ня лішнім будзе зьвярнуць увагу на ўласнаручныя паказаньні Антона Луцкевіча ад 30 кастрычніка 1939 году. Пасьля электаральнага посьпеху 1922 году бальшавікі зьвярнуліся да яго з просьбай "разработать короткий доклад о том, какие мероприятия были бы желательны в БССР с точки зрения западных белорусов". І Антон Луцкевіч склаў такі даклад: "На первом месте был там поставлен вопрос об увеличении территории БССР, о культурной работе, об амнистии деятелям БНР и другие пожелания, которые сейчас не припоминаю (кажется, об организации территориальных войск)". Ён мог радавацца, бо "в ближайшее же время началось осуществление этих пожеланий". Была абвешчана амністыя дзеячам БНР, пачаліся гэтак званыя беларусізацыя і каранізацыя, пачалася арганізацыя тэрытарыяльных войскаў, у склад Беларусі дзьвюма ратамі вярнулі частку яе ўсходніх земляў... І многія ў Заходняй Беларусі прынялі гэтыя меры крамлёўскіх правадыроў за чыстую манэту, сталі на прабальшавіцкія пазыцыі. Яны як быццам не чыталі артыкул Антона Луцкевіча "На паўдарозе", у якім ён пісаў, што ўсходнія беларусы "прымушаны няўстанна бароцца за захаваньне кожнае нацыянальнае здабычы", што становішча лідэраў БССР — Аляксандра Чарвякова, Язэпа Адамовіча, Усевалада Ігнатоўскага — "дужа незавіднае: у кожнай драбніцы яны зьвязаны дырэктывамі з Масквы". Гэтая даверлівасьць стане адной з прычынаў трагедыі лідэраў Грамады і "Змаганьня". Сам жа Антон Луцкевіч, ведучы паўгалоднае жыцьцё,ператрывае да "вызваленчага паходу" Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь, да трагічнага арышту 30 верасьня 1939 году.

*Анатоль Сідарэвіч*

## Падзякі

Укладальнік выказвае падзяку за дапамогу ў падрыхтоўцы гэтага выданьня Андрэю Вашкевічу і Пятру Краўчанку. Андрэй Вашкевіч дапамог кансультацыямі, а Пётар Краўчанка прадаставіў копію артыкулу "Движение белорусов к национальному возрождению". За дапамогу ў падборы фотаздымкаў для гэтае кнігі нельга не падзякаваць Уладзімеру Ляхоўскаму і Алесю Пашкевічу, а за тэхнічную дапамогу — рэдакцыі газэты "Наша Ніва" і асабіста Анастасіі Бакшанскай ды Сяргею Кандрацэнку.

[30] Бэргман А. Яшчэ раз пра Антона Луцкевіча // *Arche*. 2009. № 8. С. 140.